# СВАБОДА

13 — 19 верасьня 1994 г.

№35

Кошт 40 рублёў


# Замест закону — «достаточные основания»

**На стале Аляксандра Лукашэнкі ляжыць праект указу «Аб надзвычайных мерах па забесьпячэньні грамадзкага парадку і барацьбе са злачыннасьцю», які прэзыдэнт зьбіраецца падпісаць бліжэйшым часам.**

Рэдакцыя «Свабоды» неафіцыйным чынам атрымала гэты праект, які сьмела можна назваць паліцэйскім. Цытуем яго на мове арыгіналу: *«Исходя из необходимости принятия неотложных радикальных мер по предотвращению тяжких преступлений, в порядке исключения, разрешить органам внутренних дел, Комитету государственной безопасности Республики Беларусь применять с санкции прокурора превентивное задержание на срок до 30 суток лиц, в отношении которых имеются достаточные данные об их соучастии в подготовке либо совершении тяжких преступлений».*

*«Предоставить право:*

*работникам милиции и Комитета государственной безопасности право при наличии достаточных оснований осматривать здания и помещения предприятий и организаций независимо от форм собственности, знакомиться с документацией, характеризующей их деятельность, а также досматривать граждан и транспортные средства;*

*работникам оперативных служб правоохранительных органов вручать на основании письменных заданий, утвержденных руководителями оперативных аппаратов, должностным лицам, в отношении которых имеется достоверная информация о злоупотреблениях, материальные вознаграждения ("взятки") непосредственно или через представителей общественности.»*

*«Наделить начальников участков милиции, общественной безопасности и участковых инспекторов милиции правом рассмотрения протоколов об административных правонарушениях, отнесенных к юрисдикции органов внутренних дел, и наложения административных взысканий на нарушителей, придать участку милиции общественной безопасности статус органа дознания.»*

Калі прэзыдэнт падпіша гэты ўказ у такім выглядзе, як ён падрыхтаваны, грамадзянам Беларусі давядзецца забыць пра некаторыя канстытуцыйныя правы. Кожны з нас зноў трапіць ва ўладу славутых «органов», якія будуць кіравацца не законам, а сваімі «достаточными основаниями».

**Іван СІДАР**

# TV 6 каналаў



# Зь міністрам абароны ня ўсё ў парадку



**Неверагодна, але гэта факт: генэрал-палкоўнік Анатоль Кастэнка, які звонку выглядае на здаровага чалавека, мае «белы білет».**

Паведамляць пра гэта было б некарэктна, калі б сп. Кастэнка ня стаў міністрам абароны. Аднак ён узначальвае амаль стотысячнае беларускае войска, таму праблема здароўя міністра абароны — гэта зусім не прыватная справа.

Ня будзем пералічваць усе 13 хваробаў сп. Кастэнкі, зафіксаваныя ў ягоным «Пасьведчаньні аб хваробе». У заключнай частцы гэтага дакуманта чорным па белым напісана: «Негоден к военной службе в мирное время, ограниченно годен второй степени в военное время». Такі вэрдыкт вынесла генэралу Кастэнку вайскова-мэдыцынская камісія 24 сьнежня 1992 г. На гэтай падставе праз чатыры дні ён быў звольнены ў запас і заняўся досыць мірнаю справаю — у менскай штаб-кватэры СНД кіраваў аддзелам пытаньняў вайсковага супрацоўніцтва. Аднак 54-гадовага генэрала гэтак цягнула на службу, што ён, забыўшыся на ўсе свае хваробы, прыняў прапановы прэзыдэнта і ўзначаліў войска. Малайчына, генэрал! Але мне трохі сорамна за сваю краіну, абарону якой узначальвае «непрыдатны да вайсковай службы» міністар.

І яшчэ адна навіна, вартая ўвагі: генэрал Кастэнка камандуе нашым войскам, не прыняўшы беларускай прысягі.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**


ГОД ЗАСНАВАНЬНЯ 1902
ВЫХОДЗІЦЬ З 1990

Галоўны рэдактар
**Ігар ГЕРМЯНЧУК**

Заснавальнік **Павал ЖУК**

Выдавец
**«Газэта СВАБОДА», Ltd.**

**Наклад 45 000**



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
**220088, Менск, вул.Іванаўская, 56**

**Тэл. 36-24-41**


# Міністэрства ўнутраных справаў папярэджвае: падпіска на газэту СВАБОДА заканчваецца 15 верасьня



# Гісторыя паўтараецца...

**Сёлетняе сьвяткаваньне ў Менску Дня беларускай вайсковай славы, відаць, яшчэ доўга будзе мець адгалоскі — з прычыны інцыдэнту, які здарыўся каля парку Янкі Купалы.**

Улады паводзілі сябе зусім як у камуністычныя часы. Спачатку яны дазволілі шэсьце, а потым, атрымаўшы намёк з прэзыдэнцкай адміністрацыі — забаранілі. Між тым, забарона была запозьненая, бо вызначана законам тэрміны мінулі.

Аднак улады вырашылі дамагчыся свайго рукамі амону. Міліцыі было загадана не пускаць калёну на праезджую частку. Дужыя хлопцы спрабавалі выканаць загад, аднак праз некалькі хвілін ім давялося ўсё ж даць дарогу шэсьцю. Зразумела, што гэтыя бязглуздыя (інакш іх назваць цяжка) паводзіны ўладаў выклікалі досыць эмацыянальную рэакцыю ўдзельнікаў шэсьця. Людзі скандзіравалі: «Ганьба!»

А наступнага дня мы пачулі заяву міністра ўнутраных справаў, які «официально предупредил, что милиция ў наступны раз «не позволит». Ю. Захаранка абвінавáціў арганізатараў сьвята ў парушэньні закону, зваліўшы ўсё з хворай галавы на здаровую. Атрымліваецца, што законы па-ранейшаму — «як дышла». Таму спрачацца пра законнасьць бессэнсоўна.

Хачу сказаць пра іншае. Улады маглі прадбачыць (а міліцыя назірала гэта на свае вочы), што на сьвята прыйдзе маса людзей. Сабралася тысячаў пяць. І вы што, хацелі пусьціць іх вузенькім тратуарам? А можа, трэба было ісьці праз дворы, крадучыся?..

Навогул жа, сьвята прайшло выдатна. Відаць гэта і раззлавала ўладу, якія, напэўна, не чакалі, што зьбярэцца гэтулькі людзей.

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**

## Маскоўскі госьць наведае пушчу

**Чакаецца, што 14 верасьня з трохдзённым візытам у Менск прыедзе Уладзімер Шумейка.**

Апрача сустрэчаў у сталіцы, ён наведае Гародню і адзін дзень правядзе ў Белавескай пушчы.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

## Дакапаўся да XII стагодзьдзя. А далей — няма грошай

**Магілёў, які афіцыйна адлічвае свой узрост з 1267 г., у сапраўднасьці ўзьнік яшчэ раней.**

29-гадовы археолаг Ігар Марзалюк падчас сёлетніх раскопак на магілёўскім замчышчы натрапіў на культурны пласт XII ст. і ўбачыў рэшткі магутнага абарончага валу. Знойдзена шмат розных мэталічных вырабаў, бранзалеты ды інш. Як лічыць І. Марзалюк і ягоныя калегі, ужо ў XII ст. тут, на гары Магіла (цяпер — парк Горкага), стаяў фэадальны замак.

Раскопкі, на якія было затрачана ўсяго 150 тысяч рублёў (дэнамінаваных), давялося часова прыпыніць, бо няма грошай, каб наняць рабочых з рыдлёўкамі.

**Н.. РОСЛАВА**

## У гонар Касьцюшкі

**Сёлета, калі мы сьвяткуем 200-я ўгодкі паўстаньня Касьцюшкі, Горадня стала, бадай, адзіным беларускім горадам, дзе сьвяту надалі афіцыйны статус.**

Яшчэ ў лютым рашэньнем гарвыканкаму быў створаны аргкамітэт сьвята і прынятая праграма ўшанаваньня памяці паўстанцаў. Кульмінацыяй сьвяткаваньняў стане адкрыцьцё 29 верасьня памятнай дошкі на Новым каралеўскім замку. Тут 200 гадоў таму Касьцюшка праводзіў вайсковыя нарады і ўзнагароджваў баявых афіцэраў паўстанцкага войска. Да ўдзелу ў гэтай урачыстасьці аргкамітэт вырашыў запрасіць кіраўнікоў амбасадаў краін, дзе шануюць памяць Касьцюшкі: ЗША, Францыі, Польшчы й Літвы.

**Г. МАСТОЎСКІ**

# Народны Фронт — за блёк незалежніцкіх дэмакратычных сілаў

**Чарговае, верасьнёўскае паседжаньне Сойму Беларускага Народнага Фронту было пашыраным: прыехалі прадстаўнікі мясцовых Радаў і суполак БНФ.**

Аналіз актуальнай сытуацыі даў сябра Сойму Валянцін Асташынскі. Апошнія месяцы засьведчылі адсутнасьць прэзыдэнцкай каманды й прэзыдэнцкай праграмы, сказаў ён. Адзіныя рэальныя крокі прэзыдэнта — падвышэньне цэнаў і дэнамінацыя. Двойчы Лукашэнка выступіў у наўпроставым эфіры й даў расейскаму ТБ інтэрвію, якое аўтарытэту Беларусі не дадало. Вынік — абразьлівыя артыкулы ў расейскай прэсе.

Прыхільнікі Лукашэнкі, а таксама кіроўная намэнклятура, рыхтуючыся да выбараў, пачалі арганізацыйна афармляцца ў рухі й партыі. Відавочна, што як ніколі актуальная задача аб'яднаньня ўсіх сілаў незалежніцкага дэмакратычнага кірунку, зазначыў сп. Асташынскі.

Старшыня Народнага Фронту Зянон Пазьняк яшчэ раз закрануў вынікі выбараў, адзначыўшы, што галоўнымі чыньнікамі былі эканамічны крызыс, несьвядомасьць грамадзтва, папулізм кандыдата, кароткі час перадвыбарчай кампаніі. Дасягненьнем Фронту ёсьць тое, што ўдалося сьцьвердзіць пазытыўнасьць, канструктыўнасьць нашай праграмы, сказаў сп. Пазьняк.

Дае плён тактыка стрыманасьці, якую выбраў Фронт пасьля выбараў. Трэба было даць праявіцца «новай» палітычнай сіле. Бездапаможнасьць, якую яна дэманструе, сьведчыць пра тое, што і надалей яе эканамічная палітыка будзе правальваецца. Тымчасам занепакоеная грамадзтва, шукаючы адказу на надзённыя пытаньні, узгадвае пра БНФ ("дзе Фронт? Чаму маўчыць?"), расьце цікаўнасьць да працы Ценевага кабінэту Апазыцыі БНФ.

Беларусь знаходзіцца ва ўнікальна крытычных умовах з-за Чарнобыля, нагадаў З.Пазьняк. Таму палітыка і эканоміка павінны быць зарыентаваныя на выжываньне нацыі. Спадзявацца належыць найперш на саміх сябе. Нашыя лёзунгі — нацыянальная дзяржава ў эўрапейскім разуменьні, нацыя, народ. Наша пэрспэктыва — шлях у Эўропу, дзе замежнапалітычным прыярытэтам для Беларусі зьяўляецца Германія.

Сп. Пазьняк адзначыў, што Фронт застаецца ў апазыцыі да рэжыму, бо рэжым не зьмяніўся. Стаўленьне да прэзыдэнта можа быць канструктыўным там, дзе гаворка йдзе пра ўмацаваньне дзяржавы, пра барацьбу з карупцыяй.

Намесьнік старшыні БНФ Юры Хадыка вярнуўся да аналізу вынікаў выбарчай кампаніі. Мы даказалі, што Фронт — самая ўплывовая палітычная сіла. І тое, што вёска прагаласавала супраць Кебіча — таксама дасягненьне Фронту, плён ягонай шматгадовай працы. Мы абудзілі вёску, але не пасьпелі прапанаваць ёй пазытыў. Нагул выбары былі эмацыйныя. На карысьць Лукашэнкі спрацавалі факты «барацьбы» з карупцыяй і абяцаньне помсты, а таксама кансэрватызм грамадзтва. Зараз Лукашэнка спрабуе пераканаць, што яму дапамагла перамагчы ягоная пазыцыя ў дачыненьні да Расеі. Але Кебіч сваю перадвыбарчую стаўку на Расею Лукашэнку аддаваць не зьбіраўся — і тым ня менш праваліўся. Таму, дарэчы, няма падставаў лічыць, што пазыцыя адносна Расеі была Фронту перашкодаю.

Ю.Хадыка падкрэсьліў, што павінна адбыцца ня толькі перадвыбарчае аб'яднаньне партыяў незалежніцкага дэмакратычнага кірунку, але іхны трывалы саюз на ўвесь час дзеяньня наступнага Вярхоўнага Савету.

Сябра Сойму, сакратар Управы БНФ Віктар Івашкевіч акрэсьліў задачы Фронту пры падрыхтоўцы да выбараў. Ужо да канца верасьня трэба скласьці сьпісы кандыдатаў у дэпутаты, распачаць складаньне мясцовых перадвыбарчых праграмаў, ствараць структурныя адзінкі Фронту пры кожным ЖЭСе й сельсавеце, рыхтаваць матэрыяльныя рэсурсы для забесьпячэньня агітацыйнай кампаніі. У падрыхтоўцы арыентавацца на выбары і ў Вярхоўны Савет, і ў мясцовыя Саветы, якія, як вядома, сфармуюць выканкамы. Улада на мясцовым узроўні дазволіць Фронту ўзьняцца на новую прыступку палітычнай якасьці, дасьць зусім іншыя магчымасьці для ажыцьцяўленьня на практыцы нашай палітыкі, для нацыянальна-культурнага адраджэньня, для стварэньня інфармацыйнага поля.

Сябра Сойму, сакратар Управы Вінцук Вячорка ахарактарызаваў будучую агульную выбарчую плятформу Фронту. Спаборнічаць з Лукашэнкам у папулізьме Народны Фронт ня мае намеру, тым больш што непазьбежна будзе расьці расчараваньне папулісцкай левай фразай цяперашняга кіраўніцтва. Зазначыцца глыбейшы падзел паміж незалежнікамі й прарасейскімі сіламі. БНФ мусіць заставацца самім сабой і яшчэ больш выразна акрэсьліць сваю прынцыповую нацыянальна-дзяржаўніцкую палітыку, ні ў якім разе не «апраўдвацца за нацыяналізм».

Падчас апошніх выбараў нам удалося замацаваць новае ўяўленьне пра Фронт як пра сілу, якая мае інтэлект і здольная гуртаваць спэцыялістаў. Для людзей з самастойным мысьленьнем відавочна, што БНФ — адзіная рэальная сіла, здольная правесьці аздараўленчыя радыкальныя рэформы. Зважаючы на гэта, укладаючы агульную плятформу і плятформы паасобных кандыдатаў, зазначыў сп. Вячорка.

Сойм прыняў Зварот, дзе, між іншым, гаворыцца:

«...Выбары ў новы Вярхоўны Савет і органы мясцовай улады будуць надзвычай важнымі для ўмацаваньня незалежнасьці Беларусі й стварэньня дэмакратычнай праўнай дзяржавы.

Сойм Беларускага Народнага Фронту лічыць, што ў такі гістарычна адказны час недапушчальны раскол нацыянальных дэмакратычных сілаў, і прапаноўвае кіраўніцтву Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, Беларускай сялянскай партыі, Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі, Партыі народнай згоды, Беларускай хрысьціянска-дэмакратычнай злучнасьці, Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі, а таксама іншых грамадзка-палітычных арганізацыяў, якія падзяляюць прынцыпы незалежнасьці, дэмакратыі і адраджэньня нацыянальнай культуры, разгледзець магчымасьць стварэньня перадвыбарчага блёку, каб нанесьці сілам камуністычнага й імпэрскага рэваншу канчатковую паразу на ўсіх узроўнях прадстаўнічай улады...»

Сойм таксама зацьвердзіў кіраўніцтва Выбарчага камітэту БНФ на чале з праф. Ю.Хадыкам.

**Вера ЧУЙКО**

# Легенды і праўда пра генэрала Балаховіча

**Станіслаў Булак-Балаховіч — надта прыкметная асоба. Ён немінуча мусіў быў апынуцца ў цэнтры палемікі. Характэрны прыклад — абвінавачаньні генэрала Булак-Балаховіча ў арганізацыі габрэйскіх пагромаў. Войска генэрала ў розныя часы ўяўляла сабою кангламэрат вельмі розных сілаў. У «Дзьвінскі пэрыяд» (падчас дысьлякацыі на тэрыторыі Латвіі й Эстоніі ў канцы 1919 — пачатку 1920 гг.) і ў Мазырскай кампаніі лістапада 1920 г. склад гэтага войска быў найбольш беларускім — у шэрагі корпусу ўліваліся тутэйшае беларускае насельніцтва Падзьвіньня ды Палесься. Тады Булак-Балаховіч непасрэдна знаходзіўся пад юрысдыкцыяй Беларускай Народнай Рэспублікі. Між тым, пры корпусе генэрала заўжды меліся саюзныя фармаваньні, часам цяжка кіравальныя. Такімі саюзнымі аддзеламі да пачатку Мазырскага паходу былі казацкія, а таксама расейскія часткі, якія палітычна падпарадкоўваліся Барысу Савінкаву.**

**Факт габрэйскага пагрому ў Пінску ў кастрычніку 1920 г. дакумантальна фіксуецца самім генэралам. Але аналіз крыніцаў сьведчыць, што пагромы зьдзяйсьнялі аддзелы расейскіх саюзьнікаў. Генэрал зьвяртаўся да іх, як да вызвольнікаў Расеі, ды заяўляў, што такімі сродкамі дамагчыся волі для іхнае радзімы немагчыма. С.Булак-Балаховіч і раней неаднаразова вёў палеміку з радыкаламі «белага» руху Калчаком, Урангелем, Юдзенічам, у тым ліку й на старонках прэсы. Ён даводзіў беспэрспэктыўнасьць тэрору, наадварот — выступаў за стварэньне шырокай дэмакратычнай базы дзеля барацьбы з бальшавікамі. Генэрал Булак-Балаховіч рашуча змагаўся з пагромамі, выдаў загад караць удзельнікаў пагромаў сьмерцю.**

**Ян ГРЭЧЫЦ**

У міжваеннае двацацігодзьдзе генэралу Балаховічу ня раз даводзілася сустракацца з абвінавачваньнямі ў антысэмітызьме. І савецкія прапагандысты, і іхныя калегі з польскіх камуністычных колаў ужывалі славуты антысэмітызм Балаховіча як адзін з галоўных аргумэнтаў у публічным цкаваньні, што доўжылася цэлыя двацаць год. Сьцьвярджалася, што падбухтораная самім генэралам, з поўнай ягонай згоды, дабрахвотная армія займалася пагромамі й рабаваньнем габрэйскага насельніцтва гарадоў і мястэчак, занятых гэтай арміяй падчас ваенных дзеяньняў.

Не падлягае найменшаму сумневу, што акты тэрору ў дачыненьні да цывільнага насельніцтва, у тым ліку й габрэйскага, розныя вайсковыя аддзелы чынілі на працягу ўсёй вайны.

Як правіла, габрэйская бедната вітала чырвонаармейцаў як вызвольнікаў і верыла ў трываласьць зьменаў, якія прынесла савецкая рэвалюцыя. Пазыцыю гэтага насельніцтва ілюструе факт зьяўленьня ў Беластоку, Седльцах ды іншых мясцовасьцях дабрахвотных габрэйскіх аддзелаў, якія ваявалі супраць польскай арміі на баку бальшавікоў.

Таму ня трэба зьдзіўляцца, што гэткая пазыцыя ўспрымалася як калябарацыя й здрада ды часта выклікала помсту, якая нярэдка перарастала ў самаволю. Балаховіч, які лёгкаю рукою выдаваў прысуд шпікам і здраднікам, не мінаў у гэтым сэнсе і габрэяў, што пазьней акурат выкарыстоўвалася супраць яго.

Трэба памятаць, што бальшыня габрэйскіх сем'яў апынулася ў межах розных краінаў незалежна ад уласных схільнасьцяў. Як палестынскія арабы пасьля II сусьветнай вайны, габрэі ў 1918-21 гг. нечакана адкрылі, што вакол іх утварыліся новыя дзяржавы і што яны сталі закладнікамі ў руках палітычнага лёсу, на які ня маюць аніякага ўплыву. А калі ім хацелася дасягнуць гэтага ўплыву, яны выбіралі не таго партнэра, якога належыць.

Тое, што ягоныя аддзелы дапускалі эксцэсы ў дачыненьні да габрэйскага насельніцтва, пацьвярджае сам генэрал, які выдаў наступны загад:

*«Загад*

*...Жаўнеры Народнай Дабрахвотнай Арміі нясуць з сабою мір і свабоду для ўсіх. Забойства, гвалт і грабеж пакрывае дабрахвотніка ганьбай і непавагай. Забойствам, гвалтам і рабаўніцтвам не ўмацаваць сьвятое справы вызваленьня Расеі, а можна толькі зьнявечыць яе, як зьнявечылі Дзянікін, Калчак і Юдзеніч.*

*Я буду бязьлітасна змагацца з суб'ектамі, якіх западозраць у габрэйскіх пагромах, бо часта гэта справа рук правакатараў.*

*Даказана, што вельмі рэдка добры жаўнер ублытваецца ў такую справу. Гэта альбо бандыты, праз якіх ужо тры гады паміpae нашая Айчына, альбо прадажныя нягоднікі.*

*Загадваю камандзерам, жаўнеры якіх займаюцца пагромамі й рабункамі, зьняць з камандаваньня і паставіць перад вайсковым судом для асуджэньня па законах ваеннага часу, бо камандзер адказвае за свой гонар (...)*

*Генэрал-маёр Балаховіч*
*Пінск, 20 кастрычніка 1920 г.»*

Падчас ваенных дзеяньняў здараліся й факты, цалкам супрацьлеглыя пагромам. 13 верасьня 1920 г. у мястэчка Камень-Кашырскі ўвайшоў аддзел балахоўцаў на чале з палкоўнікам Сяргеем Паўлоўскім і ротмістрам фон Дасэлем (псэўданім Дарскі). Яны ўчынілі сапраўдны габрэйскі пагром. Наступнага дня ў Камень-Кашырскі ўвайшлі галоўныя сілы ген. Балаховіча. Схопленых на гарачым афіцэраў — Дасэля, Паўлоўскага, Вайнюнскага ды інш. — Бромбэрг перадаў вышэйшым уладам. У ваеннай бязладзіцы фон Дасэль уцёк у Нямеччыну, астатнія, пад пагрозаю вайсковага трыбуналу, перабеглі на савецкі бок. Варта заўважыць, што фон Дасэль стаў пазьней актыўным гітлераўскім дзеячом і з тэрыторыі Райху праводзіў прапагандавыя атакі на ген. Балаховіча.

Габрэйскае насельніцтва вітала Балаховіча ў Камені-Кашырскім як свайго збаўцу. Вынішчанае, абрабаванае мястэчка было шчодра ўзнагароджана харчамі з абозаў дабрахвотнай арміі.

У рамках сваёй дабрахвотнай арміі генэрал Балаховіч стварыў асобны габрэйскі вайсковы аддзел.

*«Загад ад 20 кастрычніка 1920 г.*

*Выказваю згоду падхаружаму Цэйтліну на сфармаваньне пры штабе Арміі асобнай габрэйскай дружыны.*

*Анольнік генэрал-маёр Балаховіч*
*Пінск, 20.10.1920 г.»*

Апрача таго, у войску служылі асобныя габрэі, у тым ліку і афіцэры.

Падводзячы крэс пад гэтай сумнай і цяжкарнай наступствамі старонкай з гісторыі арміі Балаховіча, трэба пагадзіцца, што інцыдэнты з габрэйскім насельніцтвам памежных раёнаў мелі

**Урыўкі з кнігі:** *Marek Cabanowski. General Stanisław Bułak-Bałachowicz. Warszawa, 1993.*

**Заканчэньне. Пачатак у №№32—34.**

## Узнагароды ад Булак-Балаховіча

Генэралу давялося і ордэны ўручаць... Гэта цікавы эпізод, і ягоныя вынікі па сёньня не даюць спаць тонкім знаўцам і калекцыянэрам узнагародаў. Рэч у тым, што генэрал на памяць аб супольных баёх вырашыў надаць былым дабрахвотнікам сваёй арміі адзнаку.

Стэфан Обэрляйтнэр у «Каталёгу польскіх ордэнаў...» піша: *«Ганаровая адзнака «КРЫЖ ЗМАГАРНАСЬЦІ ген. БАЛАХОВІЧА» была ўведзеная ў 1920 г. ген. Булак-Балаховічам. Знак узнагароды — чатырохканцовы аднабаковы крыж, пакрыты белаю паліваю; пасярод крыжа срэбны вянок, у абводзе якога, на чорным тле, разьмешчаная мёртвая галава, а пад ёю перакрыжаваныя меч і паходня. Рэвэрс крыжа гладкі. Памеры крыжа 36 х 36 мм. Насілі адзнаку на чорнай стужцы шырынёю 38 мм з залатымі паскамі па баках шырынёю 4 мм».*

Малюнак крыжа быў зроблены паводле ўзору расейскага ордэну Сьв. Георгія. Галоўнае адрозьненьне паміж крыжам Балаховіча і крыжам Сьв. Георгія — у мэдальёне: у першым выпадку мёртвая галава, у другім — выява Сьв. Георгія (рыцар на кані забівае цмока). Падабенства адзнакаў выводзіцца з расейскай традыцыі стварэньня «георгіеўскіх» палкоў, якія складаліся з афіцэраў і салдатаў, узнагароджаных гэтым баявым ордэнам. Такія палкі ствараў у сваёй арміі і ген. Балаховіч.

Аднак першая задума генэрала была зьвязаная, відаць, з ордэнам Virtuti Militari, які меў быць узорам для адзнакі. Існуюць нешматлікія асобнікі крыжа, зробленыя паводле гэтага ўзору. Чэрап на мэдальёне разьмешчаны тут над скрыжаванымі касьцямі, а не над мечам і паходняю, як у канчатковым варыянце. Але зь нейкіх прычынаў генэрал адмовіўся ад пачатковага намеру — магчыма, пад націскам польскіх уладаў, якія пільна берaглі ордэн Virtuti Militari ад насьледаваньня, а можа, з увагі на значную прысутнасьць у ягоным войску жаўнераў расейскай нацыянальнасьці, больш прыхільных да традыцыі крыжа Сьв. Георгія.

Мяркуюць, што было выбіта каля 10 000 арыгінальных асобнікаў. Гэта вынікі прыблізных разьлікаў калекцыянэраў — знаўцаў тэмы. Вызначыць жа дакладную колькасьць даваенных асобнікаў немагчыма хаця б таму, што выконвалі іх розныя гравёры, прычым не заўсёды паводле замовы капітулы, а дакумантаў самой капітулы таксама не знайшлі. Сам генэрал Балаховіч у кнізе «Вайна будзе ці ня будзе» пісаў: *«Пасьля заканчэньня вайны тысяча найбольш змагарных жаўнераў атрымала гэты крыж. Ад выданьня большай колькасьці ўсім, хто гэтага заслугоўваў, я вымушаны быў устрымацца з-за цкаваньня, распачатага тады на мяне й маіх людзей...»* Гіпатэтычныя зьвесткі пра выданьне 10 000 узнагародаў сьведчаць хутчэй пра досыць сьціплую ацэнку заслугаў вэтэранаў дабрахвотнай арміі, бо пад канец ваенных дзеяньняў, калі сілы арміі дасягнулі апагею, у ёй удзельнічала 20 000 салдат і афіцэраў. А за ўвесь пэрыяд службы пад камандаю Балаховіча павінна было прайсьці ўдвая больш. Калі пагадзіцца з гэтымі разьлікамі, колькасьць узнагародаў апынецца ня надта вялікая.

Праблему крыжа дабрахвотнай арміі можна разглядаць і зь іншага боку. На працягу дваццаці год пасьля роспуску ягонай арміі ген. С.Булак-Балаховіч усяляк стараўся згрупаваць вакол сябе вэтэранаў свайго войска. Ён ствараў фармальныя й нефармальныя зьвязы, перапісваўся са сваімі жаўнерамі, сустракаўся зь імі, выступаў на сходах вэтэранаў з рэфэратамі й прамовамі. Ён стараўся злучыць ня толькі вэтэранаў дабрахвотнай арміі, але й былых партызанаў памяжоўя. Генэрал думаў, што вайна яшчэ ня скончылася, а проста перайшла ў іншыя формы. Ён лічыў, што настане зноў час канфрантацыі. Гэтыя меркаваньні Балаховіч выказваў публічна, у тым ліку і ў згаданай кнізе «Вайна будзе ці ня будзе», выдадзенай у 1931 г., і трэба прызнаць — ён шмат што слушна прадбачыў. Такому яднаньню сілаў спрыялі і гэтае прадбачаньне, і атмасфэра пастаяннай пагрозы. Камуністы пагражалі безупынна. Даходзіла да шматлікіх інцыдэнтаў, у тым ліку таямнічых забойстваў сярод балахоўцаў.

Яднаньню служылі ня толькі арганізацыі ды іншыя формы згуртаваньня, але й сымбалі, да якіх належаў Крыж Змагарнасьці Дабрахвотнай Арміі. Як бы ні было, сёньня крыж дабрахвотнай арміі ген. Булак-Балаховіча зьяўляецца мараю калекцыянэраў і выклікае ліхаманку на зьбіральніцкіх аўкцыёнах. Гісторыя крыжа апісаная ў пасьведчаньнях, выдаваных разам з узнагародаю. Вось словы, пад якімі стаіць подпіс генэрала: *«Арганізацыя Кавалераў Крыжа Змагарнасьці паўстала 5 лістапада 1917 г. на Расейскім фронце пасьля камуністычнага перавароту.*

*Аддзелы, складзеныя з кавалераў Крыжа Змагарнасьці пад маім камандаваньнем вызначыліся ў 1918-1919 г. у бітвах за свабоду Эстоніі й шматлікіх рэйдах углыб Расеі.*

*Здабыцьцё фартэцыі Роскапэль 5.3.1919.*

*Здабыцьцё Гдова 5.4.1919 і вызваленьне каля 600 закладнікаў, асуджаных на сьмерць.*

*Здабыцьцё Пскова 29.4.1919.*

*Баі ў абарону Латвіі, Літвы, а затым баі ў абарону Польшчы і Украіны.*

*Здабыцьцё Пінска ў тылох Савецкай Арміі, вызваленьне некалькіх соцень закладнікаў і ўзяцьцё ў палон Штабу IV Арміі ды некалькіх савецкіх дывізіяў.*

*Пасьля таго, як Польшча падпісала замірэньне — барцьба за свабоду Беларусі.*

*Апошнія баі скончаныя 18 сакавіка 1921 г., г.зн. у дзень падпісаньня міру».*

### Эмблемы

Вернемся да «мёртвае галавы», пра якую гаварылася вышэй. Звычайна яна абуджае непрыемныя асацыяцыі зь ненавіснымі аддзеламі СС і гестапа з часоў II сусьветнай вайны. Трэба адзначыць, што гэты сымбаль ужывалі здаўна многія вайсковыя фармацыі ў розных краінах. Ужо ў напалеонаўскіх войнах яго насіла на шапках пяхота й уланы корпусу герцага Фрыдэрыка Вільгельма фон Браўншвайга. У кайзараўскай Нямеччыне яго можна было пабачыць на шапках 1-га гусарскага палка, «мёртвую галаву» насіў сам маршал Макензэн. Ужывалі такі знак танкавыя войскі III Райху, а ў Польшчы — дабрахвотныя й дывэрсійныя «штурмавыя аддзелы» вавэльбэрцаў (паўстаньне ў Сылезіі), кавалерыйскі швадрон «гусараў сьмерці».

Паходжаньне гэтага сымбалю на балахоўскіх шапках дакладна растлумачыў сам Балаховіч. 5 лістапада 1915 г. Булак-Балаховіч узначаліў партызанскі швадрон 2-й кавалерыйскай дывізіі, прыпісанай да штабу Паўночнай Арміі. З гэтым швадронам ён увайшоў у склад партызанскага аддзелу Пуніна.

Змагаючыся на фронце паблізу Рыгі, будучы генэрал разам зь іншымі партызанамі апынуўся па-за законам на тэрыторыі, аддадзенай у распараджэньне нямецкіх штабоў. «За нашыя галовы былі прызначаныя ўзнагароды, — апавядаў Балаховіч. — Быў дадзены загад у палон нас ня браць. Жыцьцё здаровых ці параненых вязьняў павінна было скончыцца на шыбеніцы. Каб пазьбегнуць ганебнае сьмерці, кожны з нас на ўсялякі выпадак меў пры сабе атруту хуткага дзеяньня. Былі выпадкі, калі немцы вешалі нават трупы партызанаў, як казалі, для страху, за што мы ім помсьцілі ў адказ. Таму арганізацыя нашая насіла назоў «рыцары сьмерці» і за эмблему прыняла баявую адзнаку белага крыжа з чэрапам, паходняй і мечам. Пасьля вайны зь немцамі гэтую адзнаку мы захавалі і ў барацьбе з бальшавікамі, адзнака гэтая трывала засталася ў маіх аддзелах, як найвышэйшы баявы ордэн». «Балахоўцы былі вельмі прывязаныя да гэтай адзнакі, бо яна нарадзілася на полі бітвы, — піша Балаховіч, — і мае чыста партызанскі характар. Рыцарскія запаветы, зьвязаныя з гэтай адзнакай, не нацэленыя супраць жыцьця й самастойнасьці ніводнага народу, бо па сутнасьці сваёй яны прасякнутыя духам міру й гуманнасьці, нягледзячы на эмблему сьмерці».

### Маркі

Разгортваючы ўладу вайсковай адміністрацыі, Балаховіч на пэўных абшарах увёў у абарачэньне паштовыя маркі, якія поруч з грашыма ды іншымі сымбалямі зьяўляліся прыкметаю сувэрэннай улады. На марках быў пазначаны скарочаны назоў дзяржавы «БНР» — Беларуская Народная Рэспубліка.

Гэтыя познамкі генэрал увёў у абарачэньне, як вынікае з календара ягоных баёў, у лістападзе 1919 г.

Паручнік Станіслаў Ліс-Блонскі, апісваючы мазырскую апэрацыю, распавядае пра дзейнасьць створанага ў той час ураду Беларускае Народнае Рэспублікі. Пры гэтым аўтар сьцьвярджае, што адзін зь міністраў ураду, Павал Аляксюк, меў у сваёй прыватнай кватэры некалькі дзясяткаў кіляграмаў паштовых познамак, падрыхтаваных для распаўсюджаньня. Гэтыя познамкі, як піша Ліс-Блонскі, былі сканфіскаваныя польскімі ўладамі, і, відаць, «агонь паглынуў гэты філятэлістычны скарб, а можа, яны пайшлі на корм пацукам у нейкім забытым архіве». Дадам ад сябе: яшчэ існуе шанц на тое, што яны ляжаць сабе ціха на падстрэшшы нейкай хаты ў Мазыры і, можа, нехта іх там адшукае і «запусьціць» у абарачэньне спаміж калекцыянэраў...

**Пераклад з польскай.**

